„Беларускі настаўнік" гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы".

„Беларускі настаўнік" выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік" даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

Як ты сябе паводзіш (як гаворыш)?! У школе цябе так навучылі? Колькі разоў даводзілася нам быць сведкамі такой сітуацыі, калі старэйшыя менавіта такімі словамі ўшчувалі моладзь. Гэта паказвае, як людзі бачаць ролю нас — настаўнікаў — у грамадстве. Мы павінны не толькі навучаць, але і выхоўваць. Дык мы і самі — хаця часта сумняваемся ў нашых магчымасцях — не перастаем быць праваднікамі моладзі разам са школьным званком. Як нам рэагаваць на адмоўныя з'явы ў грамадскім жыцці? Як разумна, шчыра гаварыць з моладдзю пра нацыяналізм, неталерантнасць, ксенафобію? У нумары змяшчаем сцэнарый заняткаў д-р Катажыны Савіцкай-Межынскай з Інстытута паланістыкі Універсітэта ў Беластоку на аснове верша Міхала Ксёнжка „Падпальванне дзвярэй". Можна ім пакарыстацца як на ўроку польскай, так і беларускай мовы (друкуем пераклад верша), а таксама на грамадазнаўчых, краязнаўчых ці культуралагічных занятках. Як гэта зробім — залежыць толькі ад нас.

Ці маглі б мы сабе ўявіць беларускае школьніцтва ў Бельску (але і на ўсёй Беласточчыне) без Яраслава Кастыцэвіча? Я — з цяжкасцю. Хаця і кажуць, што няма незаменных людзей. Тым не менш, настаўнікі беларускай мовы ў Польшчы, як ніхто іншы, ведаюць, што ніхто нічога за іх не зробіць. Як працаваў з моладдзю легендарны дырэктар Бельскага беларускага ліцэя — расказвае Дарафей Фіёнік у яго біяграфіі. Думаю, што прачытаць яе заахвоціць друкаваная ў нас рэцэнзія Славаміра Іванюка. А пра тое, між іншым, як пісала падручнік па беларускай мове для другога класа „Літарынка" і чаму за яго ўзялася, расказвае аўтарка Ларыса Бурыла ў размове з Міколам Ваўранюком.

Я прапаную некалькі сцэнарыяў урокаў з навукай песень і мастацкімі заняткамі. І заахвочваю да супрацоўніцтва. Калі самі сабе не напішам канспектаў, падручнікаў, калі не будзем абменьвацца думкамі, паглыбляць свае веды, то цяжка глядзець з аптымізмам у будучыню навучання беларускай мове на Беласточчыне. Ніхто нічога за нас не зробіць. Ніхто нам не дапаможа.

# Усё жыццё са школай



Мікола ВАЎРАНЮК



**Ларыса Бурыла**
(1940 г. нар.) — настаўніца-пенсіянерка, спецыялістка пачатковага навучання, аўтарка падручніка па беларускай мове „Літарынка"[1] і метадычнага дапаможніка для настаўнікаў беларускай мовы (разам з мужам Сцяпанам) „Poradnik metodyczny do elementarza białoruskiego A. K. Kłyszki"[2].

— **Дзеткі на Падляшшы пазнавалі беларускія літары з „Літарынкі" амаль дваццаць гадоў. Ваш падручнік і заадно сшытак практыкаванняў хвалілі настаўнікі...**

— ...бо гэта быў першы падручнік, які ўводзіў малечаў у беларускую мову ў адпаведнасці з праграмай навучання ў польскіх школах. Раней нашы настаўнікі карысталіся „Букваром" Анатоля Клышкі. Я і сама першую версію напісала пад Клышку. У выдавецтве (*WSiP — Wydawnictwa Szkolne i Pedagogiczne*) мне яе адкінулі. Сказалі адарвацца ад Клышкі. Падказалі агульную канцэпцыю, казалі ўвесці практыкаванні, паказалі, як яны прыкладна бачылі б старонку і прапанавалі загаловак. І я другі раз яго складала. Нямала часу — мусіць з год. Але эфект быў: сучасная графіка, колеры; у выдавецкім плане і па змесце „Літарынка" не адрознівалася ад іншых падручнікаў пачатковага навучання.

1 Ларыса Бурыла, *Літарынка. Сшытак практыкаванняў для II класа*, Wydawnictwa Szkolne i Pedagogiczne, Warszawa 1997.

2 Łarysa i Stefan Buryłowie, *Poradnik metodyczny do elementarza białoruskiego A.K. Kłyszki*, Wydawnictwa Szkolne i Pedagogiczne, Warszawa 1988.

— **Чаму якраз Вы ўзяліся за гэтую працу?**

— Запрапанавала мне гэта Тамара Русачык. Яна на той час была метадыстам навучання беларускай мове і супрацоўнічала з WSiP — адзіным тады выдавецтвам у Польшчы, якое выпускала падручнікі і школьныя дапаможнікі. Тамара напісала ўжо падручнік для трэцяга класа „Заранчка". А такога, з якім настаўнікі пачыналі б працу з дзецьмі, не было. Я добра ведала спецыфіку працы з наймалодшымі, бо і адукацыю ў гэтай галіне мела, і практыкі нямала. Тым не менш, цяжка мне давалася праца над ім, бо мала было крыніц і дапаможных кніжак. Я перш-наперш карысталася менскім часопісам „Пачатковае навучанне" і вершамі Артура Вольскага. Іншая цяжкасць — я слабавата ведала беларуску мову, от тое, чаму навучылася ў падставоўцы і ліцэі.



Малая Ларыса Кананюк

— **Вы вучыліся ў беларускім класе Педагагічнага ліцэя ў Бельску.**

— Дакладна ў класе дашкольных выхавацелек, які быў пры Педагагічным ліцэі. Памятаю, што матэматыка была па-беларуску, а навучала яе пані Кучынская. Настаўніцай беларускай мовы была пані Орда. А дырэктаркай школы — Анастасія Тропак. Я нават пасведчанне заканчэння школы маю на дзвюх мовах, па-польску і па-беларуску. Але на гэтым мая беларуская адукацыя закончылася. Пазнейшая праца і павышэнне кваліфікацый — усё было звязана з пачатковым навучаннем у польскай школе.

— **Чаму Вы хацелі стаць выхавацелькай у дзіцячым садку?**

— А які тады выбар быў у вясковых дзяцей? Хлопцы хацелі стаць трактарыстамі, а дзяўчаты марылі працаваць у школе. Мы з Ваською ў педагагічны ліцэй пайшлі ўтраіх: Геня Крантоўская, Надзя Астапчук і я. З нас у вёсцы смяяліся, навошта вучыцца на *przedszkolanku*, бо ж як дзеці пасыплюцца, то і без навукі давядзецца ёю быць.

— **Навука на вёсцы не цанілася.**

— Але як яна цяжка давалася! Бо жыццё было цяжкое, беднае. Мае бацькі не пайшлі ў калгас, то я спачатку не мела ніякай стыпендыі; потым, здаецца, якуюсь далі. Жыла спачатку ў інтэрнаце, які пры Эканамічным ліцэі збудаваў Кастусь Майсеня. Потым нас перавялі на Навоткі (сёння 11 Лістапада), дзе сваю сядзібу меў пасля Саюз польскіх настаўнікаў (*Związek Nauczycielstwa Polskiego — ZNP*). Гэта ўжо было хоць па-суседску са школай.

— **Дзе месціўся Педагагічны ліцэй?**

— У тым будынку, дзе цяпер Ліцэй Касцюшкі. Ааа, забыла сказаць, што я ледзь туды паступіла. Заехала на ўступныя экзамены, а там няма маіх папераў.

**— Што здарылася?**

— Мама папрасіла сваячку з Бельска, каб тая завезла маю заяўку ў школу. А яна зразумела, што раз я хачу быць выхавацелькай дашкольнікаў, то занесла дакументы ў дзіцячы садок, на вуліцу Казімяжоўскую (няма ўжо таго будынка). Я ўжо не памятаю, як мне ўдалося ўсё паадкручваць, але да экзамену прыступіла. Настаўнік музыкі Мяшальскі пытае: *Co nam zaśpiewasz?* І я заспявала: *Там в саду при долине громко пел соловей.* Мусіць някепска, бо мяне прынялі. У нас вучыліся дзяўчаты з усяе ваколіцы, з Бельска, Сямятыч, з-пад Браньска, але і шмат адыходзіла, не давучыўшыся да канца. З нашага класа матуру ў Беластоку здавалі толькі я і Марыся Парфянюк, тады яшчэ Юшкевіч.

**— А чаму матуру здавалі ў Беластоку?**

— Такая была сістэма: тры гады падрыхтоўкі да прафесіі ў Бельску, а матуральны клас у Беластоку. Спачатку педагагічны ліцэй быў на Выгодзе, а калі я вучылася, то ўжо на Злотай. Гэта было ў 1957/58 гадах, пасля грамадскіх хваляванняў 1956 года і прыходу да ўлады Гамулкі. Мусіць таму мы мелі рэлігію ў школе. Навучаў яе дыякан, вельмі прыгожы, з цудоўным голасам. А настаўніца беларускай мовы, памятаю, была з Элку і таксама называлася Ларыса. Як бачыш, увесь час я вучылася, каб працаваць з беларускімі дзеткамі.

**— А Вас пасля матуры накіравалі ў школу ў польскім асяроддзі. Здаецца ў Мулявічы.**

— Не, найперш я трапіла на шляхту, у вёску Прушанка, каля Высокага-Мазавецкага. Навучала там усіх прадметаў, акрамя матэматыкі, бо сама яе не ведала. Рыхтавала школьныя ўрачыстасці, ялінку, на якую і ксёндз прыязджаў. Непадалёк, у мясцовасці Мень, працавала Ліда Грыгарук (па мужу Негярэвіч). Мы спаткаліся, а яна кажа: *Ой, я тут баюся!* Я, кажу, таксама баюся. Нічога аднак дрэннага мяне там не спаткала, калі не лічыць, што аднойчы, калі я была сама, хтосьці забарабаніў вечарам у акно. І раз пачула ад аднаго мужчыны: *Pani uważa na swoje imię.* Жыла там, памятаю, пані Прушынска. Калі прыязджаў візітатар Севастыяновіч, то спачатку ішоў да яе, а толькі потым у школу. Раз яна нас, настаўніц, запрасіла на гарбатку. І за сталом штосьці такое сказала: *Po wojnie to mojej teściowej trzeba się było bać.*



Ларыса з мамай Любай



З мамай і пляменнікамі

Я там год прапрацавала і перавялі мяне ў Мулявічы. Там ужо было лягчэй, бо гэта хоць і каталіцкая ваколіца, але не шляхецкая, а мужыцкая. І была там я не адна. Разам са мною працавалі ўспомненая Ліда Грыгарук і Тоня Троц. Абедзве з цягам часустануць матушкамі. Ліда паселіцца ў Малешах, а Тоня разам з мужам Рыгорам Сасною памяняе некалькі прыходаў і будзе дапамагаць бацюшку ў яго даследчыцкай працы. У Мулявічах я, здаецца, працавала чатыры гады.

— **А дзе тут логіка? Навошта дзяржава стварыла беларускія класы ў педагагічных ліцэях у Бельску і Беластоку, каб потым не карыстацца ведамі і ўмеласцямі выпускнікоў тых класаў?**

— Якая там логіка! Так было і ўсё. Рабілі, што хацелі.

— **Вы ўсё-такі ўрэшце папалі да сваіх, канкрэтна ў Маліннікі.**

— Там якраз стварaўся дашкольны аддзел. Але мне прыйшлося навучаць і іншым прадметам, між іншым польскай мове.

— А я ўсяму вучыў, — смяецца муж Сцяпан, — і беларускай мове, і матэматыцы, і фізкультуры. А яшчэ былі вечаровыя сельскагаспадарчыя курсы...

— ... і заняткі для дарослых, якія не мелі падставовай адукацыі. Хадзілі на іх жыхары Маліннік і суседніх вёсак, гаспадары і чыгуначнікі з Рыгораўцаў. Былі многа старэйшыя за мяне. Памятаю, што сёмы клас заканчвалі людзі 1924 года нараджэння.

— **У Малінніках вы спаткаліся, знайшлі сваё шчасце.**

— О так! Паглядзі, які Бурыла шчаслівы.

— Шчасця больш у нас, чым на небе зор, — смяецца Сцяпан.

— Але ў Малінніках не было замнога часу, каб тым шчасцем цешыцца. Гэта не была ідылія. Апрача штодзённай працы ўсё трэба было павышаць кваліфікацыі.

Завочна, па суботах і нядзелях. Спачатку 2,5 года Настаўніцкай студыі ў Беластоку, пасля яшчэ столькі Вышэйшай настаўніцкай студыі, таксама ў Беластоку. У выніку я атрымала дыплом спецыяліста пачатковага навучання. А потым яшчэ два гады магістарскіх студыяў у Любліне — ва Універсітэце Мар'і Кюры-Складоўскай, — якія далі мне дыплом школьнага педагога. Там добра вучылі. Але было вельмі цяжка, не толькі беручы пад увагу ўзровень навучання, а матэрыяльныя ўмовы, бо ездзіла туды кожныя два тыдні, не заўсёды быў начлег у Доме настаўніка, часам прыходзілася спаць у фатэлі. Дабіралася ў Люблін і вярталася адтуль начнымі цягнікамі; Сцяпан выязджаў па мяне ў Чаромху. А ён, дарэчы, таксама завочна штудзіраваў — беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце.

**— Так вы абое сталі магістрамі...**

— ...а тады магістраў было мала.

**— І пасыпаліся прапановы.**

— Можа не то, што пасыпаліся, але так, былі прапановы змены працы. Сцяпану прапанавалі стаць начальнікам Арлянскай гміны. Але мы не схацелі. Падумалі, кар'ера ў адрозненні ад адказнасці невялікая, а навокал многа знаёмых, вялікая сям'я... Усё будуць прыязджаць, чагосьці прасіць... Вырашылі, лепш у тое не гуляць.

**— Маглі адмовіцца, бо Сцяпан Бурыла і так займаў прэстыжную пасаду кіраўніка, а потым дырэктара школы. А Вы, апрача працы ў Малінніках, сталі навучаць настаўнікаў.**

— Я спачатку стала візітатарам пачатковага навучання пры Павятовым інспектарацэ асветы ў Бельску, а потым — калі інспектарат распусцілі — пры Асветнай кураторыі ў Беластоку. Ездзіла па школах у гмінах Бельск, Браньск, Драгічын, Гродзіск, Дзядковіцы, Боцькі, Вышкі, Мілейчычы. Вялікая тэрыторыя, многа школ, настаўнікаў, хмара дзяцей!

**— Настаўнікі Вас баяліся?**

— А ідзі ты! — *смех*. — Мусіць я больш баялася тых візітацый, ці ўсякага роду канферэнцый, якіх тады было процьма.

**— Вы надалей працавалі ў Малінніках. І апрача ўрокаў мелі яшчэ іншыя абавязкі. Перш-наперш на Вашай школьнай хроніцы нядаўна дзеці з Орлі зрабілі ўзнагароджаны ў Варшаве фільм пра Маліннікі, гісторыю школы ў гэтай вёсцы і яе патрона — лейтэнанта Кузмінова[3].**



З мамай і дачкамі ў Малінніках

[3] „PRL — mit bohatera" — фільм вучняў Комплексу школ у Орлі: Рыгора Каліны, Матэвуша Карпюка, Наталлі Міранчук, Якуба Рыбака, Матэвуша Сцепанюка і Рыгора Таранты, зняты пад апекай настаўнікаў Альжбеты Цюлькевіч і Дарыюша Гарадэцкага, атрымаў першую ўзнагароду ў XIX конкурсе „Блізкая гісторыя" Асяродка Карта ў Варшаве ў 2016 годзе.

— Калі школе прысвойвалі імя савецкага афіцэра, які загінуў у баі каля Маліннік, то нават яго сын прыязджаў. Таксама быў вайскоўцам, служыў у Нямеччыне і прыехаў да нас проста з Берліна. То была вялікая падзея! Памятаю, пастанова аб прысваенні імя была, набліжалася ўрачыстасць, а мы нават адпаведнай шыльды не мелі. Узялі мы з Весяй Каптэвіч (настаўніца малінніцкай школы) кавалак дошкі, фарбу і давай маляваць. Фарба разлівалася, усё нам нешта не выходзіла, але занач зрабілі. Падрыхтавалі таксама артыстычную частку з вершамі і песнямі. Прадстаўнікоў улад панаязджала, мора гарэлкі выпілі, настаўніц па кутках ганялі. Усім падабалася.

— **Урачыстасць, думаю, тыповая на той час. А хроніка засталася.**

— То праўда. Нават я яе на нейкі ваяводскі конкурс выслала. Ужо мянялася сітуацыя ў краіне. Беластоцкія настаўнікі ў сваіх хроніках пісалі пра школьныя яслі, спасылаліся на папу Яна Паўла II, а ў нашым раёне ўсё яшчэ галоўнымі тэмамі былі ўрачыстасці прысвечаныя міліцыі, Дню войска, Леніну. Якісьці чыноўнік з куратарыі спытаў у лоб: *Co tam u was się dzieje?*



З дачкой Алінкай, 1971 г.

— **Такі быў час. Але факты Вы апісалі салідна і настаўнікі ў Орлі выкарыстоўваюць Вашу хроніку як дапаможнік у навучанні рэгіянальнай гісторыі. А яшчэ ведаю, што Вы з вучнямі займаліся тэатрам, прычым беларускім. Хтосьці Вам казаў гэта рабіць?**

— Ніхто не казаў. Я сама сарганізавала для дзяцей тэатральны гурток на беларускай мове. Сама дэкарацыі рабіла. „Пінскую шляхту" мы не толькі ў школе паказвалі, але і па вёсках ездзілі. Выступалі ў святліцах у Шарнях, Рыгораўцах, Саках. Як нас там чакалі, якія бравы білі! Транспарт арганізавалі бацькі вучняў, запрагалі коней і вазілі нас фурманкамі. А мы ахутваліся цёпла і ехалі. Памятаю, што я нават брала з сабой маленькую дачушку Алінку.

А тэатрам працягвала я займацца і ў Пачатковай школе № 3 у Бельску. Там настаўніца Мар'янна Пугацэвіч рыхтавала з дзецьмі вельмі прыгожы лялечны тэатр, на польскай мове. Падумала я сабе, а чаму не зрабіць на беларускай? Мар'янна мне тое-сёе паказала, але лялькі я рабіла сама. Не мела пра гэта паняцця і зрабіла зацяжкія, аж дзеці пачалі наракаць. Давай я іх папраўляць. Паставілі мы спектакль „Зайка беленькі і зайка шэранькі", з якім выступалі на тэатральным конкурсе Беларускага грамадска-культурнага таварыства і нават у Менск ездзілі. Там нас прынялі вельмі добра, узнагародзілі бурнымі апладысментамі. Пазней ставілі „Пра гномікаў і сіротку Марысю" Канапніцкай, таксама на беларускай мове. Потым я і сама штосьць укладала пра сваркі звяроў. Вельмі здольных вучняў мела, прыемна было з імі працаваць. І хутка вучыліся роляў, і добра ігралі, і прыгожа спявалі.

— **Вы і самі спявалі, між іншым, у бельскім калектыве „Васілёчкі".**

— А колькі я там спявала? Пару гадоў



З малінніцкімі першакласнікамі, пачатак 70-тых гадоў

усяго, як пераехалі ў Бельск. Але спяваць я, праўда, заўсёды любіла, з дзяцінства. У нас у Васьках жанчыны вельмі прыгожа спявалі, на ўсю вёску. І ў Малінніках таксама.

— **А чаму вы пакінулі Маліннікі?**

— Тут сышлося некалькі фактараў. Алінка ішла ў ліцэй. Мы якраз атрымалі кватэру з жыллёвага кааператыва, пасля сямі гадоў чакання. Ну і я, як метадыст пачатковага навучання пры Куратрыі, была на той час ужо прыпісаная да бельскай „тройкі", мела там некалькі ўрокаў. Так што гэта быў натуральны крок. Хацелася лепшага жыцця. І так мы доўга засядзеліся на вёсцы

— **Але для Вашага мужа было гэта зніжэнне прэстыжу, бо з дырэктара школы пайшоў на простага настаўніка беларускай мовы.**

— Коля, я такімі пусцякамі галавы сабе не набіваў, — усміхаецца Сцяпан Бурыла і махае рукою: — Пра які ты прэстыж гаворыш.

— Дырэктар вясковай школы з „сірэнкай", — дадае Ларыса, — гэта ў той час ужо слаба імпанавала.

— **І што, лепш стала жыць у Бельску?**

— А пэўна! Мы нарэшце былі ў сваёй кватэры. У Малінніках жылі ў школе, у адным пакоі з кухняй. А ў школе як у школе, ад сёмай раніцы да дзясятай вечара заўсёды хтосьці быў (мы ўжо казалі пра вечаровыя курсы), ніякай прыватнасці, без магчымасці адасобіцца. І было страшэнна холадна — адчыненыя дзверы, няшчыльныя вокны. Я ўвесь час там мерзла. Але нашы дзеці гэтага не памятаюць і вельмі цёпла ўспамінаюць Маліннікі. А малодшая дачка Эля, якая пайшла ў Бельску ў восьмы клас, доўга не магла прыжыцца ў новай школе. Усё казала, што хацела б вярнуцца на вёску.

— **У Бельску Вы, відаць, урэшце займелі ўмовы, каб падзяліцца з іншымі настаўнікамі ведамі і назапашаным досведам не толькі вусна, але і на паперы. Перад „Літарынкай" Вы сумесна з мужам напісалі „Poradnik metodyczny do elementarza białoruskiego A. K. Kłyszki".**

— Гэтая кніжка ўзялася з патрэбы. Я ўжо гаварыла, што Клышка не падыходзіў да польскіх школ ні па змесце, ні па праграме навучання. Але іншых кніжак мы не мелі, таму трэба было падказаць настаўнікам, як выкарыстоўваць яго „Буквар", каб гэта не ішло ў разрэз з патрабаваннямі польскай сістэмы адукацыі і каб як найбольш эфектыўна вучыць дзяцей.

— Гэты дапаможнік быў скіраваны на выпускнікоў беларускай філалогіі, — дадае Сцяпан, — якія ведалі мову, але не ведалі методыкі працы з малымі дзецьмі.

— Я ж тую методыку мела ў малым пальцы, а Сцяпан меў філалагічную адукацыю. Дык неяк натуральна атрымалася, што мы ўдваіх выдалі такую брашуру.



Ларыса і Сцяпан Бурылы

А колькі праблем было з пісаннем. У выдавецтве мне сказалі, што можна яе напісаць на абы-якой машынцы. Ды я так і стукала адным пальцам. Кашмар!

**— Добрае заўсёды нараджаецца доўга і цяжка. А тут з аднаго боку настаўнікі атрымалі карысную метадычную дапамогу, а з другога, Вы набылі смеласці, каб праз пару гадоў узяцца за „Літарынку".**

— Можа то і праўда. Я ж казала, што я ўвесь час адчувала, што заслаба ведаю беларускую мову. Я стала яе вывучаць з пятага класа, у Нарве, бо ў Васьках, дзе вучылася першыя чатыры гады, беларускай мовы не было. Навука закончылася на ліцэі. Не хапала мне філалагічных студыяў.

**— Затое былі іншыя студыі і вялікі досвед педагога. Думаю, невыпадкова якраз Вы сталі аўтарам падручніка, на якім вырасла цэлае пакаленне беларусаў Беласточчыны, бо школы карысталіся ім з 1997 па 2013 год.**

— Маглі б і даўжэй, бо выдавецтва прапанавала мне падкарэктаваць яго, зрабіць больш сучасным. Я сама ўжо не пачувалася на сілах, бо была пенсіянеркай, таму адказала, што магу гэта зрабіць разам з Алінкай,[4] якая ведала на практыцы патрэбы і магчымасці цяперашніх дзяцей. Яны пагадзіліся. Мы салідна папрацавалі і... кантакт абарваўся. Можа то і добра, усяму прыходзіць пара. Цяпер дзеці маюць „Лемантар".[5]

**— Гэта ўжо аднак іншая гісторыя. Дзякуй за размову.**

**Размаўляў Мікола ВАЎРАНЮК**

4 Аліна Ваўранюк — дачка, настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе № 4 у Беластоку.

5 Аліна Ваўранюк, *Лемантар. Падручнік па беларускай мове для II класа*, Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА, Беласток 2013.

# Recenzja

## Fionik Doroteusz: *Jarosław Wasiljewicz Kostycewicz*, [Bielsk Podlaski] 2017, ss. 144.



Славамір ІВАНЮК

W minionym roku wyszła książka poświęcona Jarosławowi Kostycewiczowi — znanemu w Bielsku Podlaskim pedagogowi, twórcy i wieloletniemu dyrektorowi Liceum Ogólnokształcącego, które powszechnie nazywane jest „białoruskim". Autorem tej publikacji jest Doroteusz Fionik, a wydawcą Stowarzyszenie Muzeum Małej Ojczyzny w Studziwodach. Omawiana książka stanowi już piątą z kolei pozycję w serii „Historia i kultura podlaskich Białorusinów", którą oddało do rąk czytelnika studziwodzkie Stowarzyszenie.

Praca D. Fionika składa się z sześciu rozdziałów, poprzedzonych „Prologiem", z podsumowaniem całości treści w „Zakończeniu". W książce ujęto również wykaz archiwaliów i literatury, a także indeks osób.

Pierwsze dwa rozdziały — „Przodkowie" oraz „Ojciec Bazyli — filolog, pedagog, dziekan" — poświęcone zostały rodzinie Kostycewiczów, która na Białostocczyznę trafiła na początku XIX wieku z unickiej parafii we wsi Lebioda (obecnie w rejonie lidzkim obwodu grodzieńskiego Republiki Białoruś).

Najstarszym przedstawicielem opisywanej rodziny, odnotowanym w książce, jest ojciec Andrzej Kostycewicz, w którego rodzinie zimą 1788 r. przyszedł na świat syn Adam. Według D. Fionika młody Adam Kostycewicz ukończył unickie seminarium duchowne w Połocku lub w Ławryszewie koło Nowogródka i w 1811 r. wstąpił do Głównego Seminarium Duchownego, powołanego kilka lat wcześniej przy Uniwersytecie Wileńskim. W Wilnie na pewno musiał się spotkać z przyszłymi profesorami uniwersyteckimi rodem z Podlasia: Michałem Bobrowskim (z Wólki Wygonowskiej, gm. Kleszczele) i Ignacym Daniłowiczem (synem duchownego z Hryniewicz Dużych, gm. Bielsk Podlaski). Po uzyskaniu tytułu magistra teologii Adam Kostycewicz ożenił się z Joanną Bańkowską, córką unickiego duchownego Adama Bańkowskiego z Hodyszewa (niegdyś prawosławnej parafii leżącej w pow. bielskim), a w 1815 r. został parochem cerkwi w Dubiczach Cerkiewnych. W ten sposób rodzina Kostycewiczów trafiła na Podlasie, a od 1826 r. na kilka pokoleń osiadła w Pasynkach (gm. Bielsk Podlaski). O nieprzeciętnych zdolnościach o. Adama Kostycewicza, nie tylko organizacyjnych, świadczy jego awans na dziekana bielskiego, a także przeprowadzenie ówczesnych Białorusinów, mieszkających w olbrzymim dekanacie bielskim (ok. 44 tysiące dusz), z unii do prawosławia — mimo pewnych sprzeciwów kilku parafialnych duchownych. Pasynkowską parafię po o. Adamie Kostycewiczu przejął w 1849 r. jego syn o. Andrzej Kostycewicz (żył w latach 1825-1891). Niestety, w książce zakradł się błąd, bo w marginesowym opisie zdjęcia, ukazującego o. Andrzeja Kostycewicza, jako czas przejęcia parafii w Pasynkach odnotowano rok 1846. Warto zauważyć, iż rodzina Kostycewiczów już wówczas weszła do elity regionu bielskiego, a następnie spokrewniła się z innymi zacnymi rodzinami (już




prawosławnych) duchownych — Brenów ze Starego Kornina oraz Goworskich ze Szczytów-Dzięciołowa.

U o. Andrzeja Kostycewicza w 1862 r. urodził się syn Bazyli — ojciec bohatera omawianej książki Jarosława Kostycewicza. Zanim o. Bazyli Kostycewicz został w 1887 r. proboszczem parafii w Pasynkach, zdobył wyższe wykształcenie na Imperatorskim Uniwersytecie Warszawskim, kończąc w 1885 r. fakultet historyczno-pedagogiczny. Po powrocie do Pasynek rozwinął w swojej parafii działalność oświatową. Szybko więc zaczęła tam funkcjonować sieć szkolna, obejmująca wsie Knorozy,

Łoknica, Miękisze, Ogrodniki, Pilipki, Saki, Treszczotki i Zubowo. Część tych szkół otrzymała nowe budynki. Dzięki staraniom o. Bazylego Kostycewicza w Pasynkach pobudowano także nową cerkiew.

Głównej postaci omawianej książki Jarosławowi Kostycewiczowi poświęcone zostały cztery rozdziały: „Młode lata", „Jarosław, Zinaida i Swietłana", „Bielskie Gimnazjum Białoruskie" i „Dyrektor".

Jarosław Kostycewicz urodził się w Pasynkach 7 czerwca 1896 r. (według nowego stylu 20.06.1896 r.). Jeszcze przed I wojną światową rozpoczął naukę w szkole średniej, a na studia trafił już w czasie zawieruchy wojennej w 1915 r. Studiował na uczelni wyższej w Kijowie, gdzie w wyniku bieżeństwa zatrzymała się jego rodzina. Tam został zmobilizowany do armii carskiej i brał udział w walkach na froncie tureckim. Wiele świadczy o tym, że po powrocie w końcu 1918 r. na Białostocczyznę zaangażował się w polityczną działalność białoruską, stając się zwolennikiem Białoruskiej Republiki Ludowej. Najprawdopodobniej to właśnie Jarosław Kostycewicz występuje jako wyróżniony „sztabskapitan Kostycewicz" w źródłowym przekazie z końca 1920 r., który dotyczy walk z bolszewikami w szeregach białostockiego białoruskiego batalionu, działającego pod dowództwem generała Stanisława Bułak-Bałachowicza. Autor książki zakończył „młode lata" Jarosława Kostycewicza na roku 1922, kiedy w odrodzonej Polsce odbywały się wybory do Sejmu i Senatu, w których kandydatem na senatora był spokrewniony z Kostycewiczami Paweł Goworski, syn prawosławnego duchownego ze Szczytów-Dzięciołowa.

Następny rozdział książki opisuje trudny okres odrodzonej Polski i czasy II wojny światowej. Radosnymi momentami dla Jarosława Kostycewicza w tym czasie na pewno był ślub z Zinaidą Ostasiewicz (wywodzącą się z bielskiego rodu mieszczańskiego) oraz narodziny 18 listopada 1926 r. córki Swietłany. Tragiczne chwile nastąpiły w czasie władzy sowieckiej, kiedy to w 1941 r. aresztowano Jarosława Kostycewicza jako tzw. wroga ludu, a jego żonę z córką wywieziono w głąb sowieckiego imperium. Przewrotność losu sprawiła, że Jarosław Kostycewicz w końcu czerwca 1941 r. został wyzwolony z sowieckiego więzienia przez niemieckich okupantów. Nie mając u boku rodziny, przyjął na siebie rolę pośrednika pomiędzy niemiecką władzą okupacyjną a lokalnym społeczeństwem. Z wielu wspomnień wiadomo, że dzięki wstawiennictwu Jarosława Kostycewicza u niemieckich okupantów śmierci umknęło wówczas wielu Białorusinów i Polaków.

Dwa następne rozdziały ukazują Jarosława Kostycewicza jako działacza społecznego, urzędnika, nauczyciela, ale przede wszystkim jako dyrektora szkół białoruskich. Po wyzwoleniu Bielska Podlaskiego w końcu lipca 1944 r. aktywnie włączył się w utworzenie gimnazjum i liceum białoruskiego w tym mieście, m.in. by kontynuować pracę z młodzieżą, którą nielegalnie nauczał na tajnych kompletach w okresie okupacji niemieckiej. Po wyjeździe w czerwcu 1946 r. dyrektora Państwowego Gimnazjum i Liceum Białoruskiego Anatola Tymińskiego do Związku Socjalistycznych Republik Radzieckich, Jarosław Kostycewicz przejął po nim schedę. Jednak w wyniku antybiałoruskiej polityki władz musiał zostać likwidatorem tej szkoły. Po trzech latach władze zmieniły swoje podejście do mniejszości białoruskiej i wyznaczyły Jarosława Kostycewicza na stanowisko dyrektora utworzonej 1 września 1949 r. Państwowej Szkoły Ogólnokształcącej stopnia podstawowego i licealnego z białoruskim językiem nauczania w Bielsku Podlaskim.

O pracy Jarosława Kostycewicza w „białoruskiej" szkole w Bielsku Podlaskim powstało wiele niesamowitych opowieści. Osoba dyrektora cieszyła się wśród współpracowników (nauczycieli i obsługi szkoły), uczniów oraz władz wręcz niewyobrażalnym

autorytetem, który wynikał nie tylko z żelaznej dyscypliny, którą potrafił utrzymywać w szkole. Ten wielki autorytet w lokalnym środowisku łączyć należy także z ciężką pracą na rzecz tzw. prostego człowieka. Uczniami białoruskiego liceum były bowiem przede wszystkim dzieci z biednych podbielskich wsi. A matura i następnie studia wyższe umożliwiały nieosiągalny wcześniej dla białoruskiej młodzieży awans społeczny. W książce D. Fionik zamieścił wiele opisów na potwierdzenie opinii o Jarosławie Kostycewiczu. Nic więc dziwnego, iż w 2005 r. Zespołowi Szkół z dodatkową nauką języka białoruskiego w Bielsku Podlaskim, który swe tradycje wywodził od klas podstawowych placówki powołanej w 1949 r., nadano imię Jarosława Kostycewicza.

Jarosław Kostycewicz odszedł na emeryturę w 1965 r., przekazując liceum białoruskie Mikołajowi Hajdukowi. Zmarł 1 kwietnia 1971 r.

Praca D. Fionika ukazuje nie tylko życiorys Jarosława Kostycewicza i opowiada o jego przodkach, ale jest także skarbnicą wiedzy o rodzącej się już od XIX wieku nowoczesnej białoruskiej wspólnocie powiatu bielskiego. Czytając książkę, dowiadujemy się, jak wielu białoruskich działaczy narodowych wydała bielska społeczność lokalna. Duchowni, nauczyciele, wojskowi, studenci, a także gospodarze rolnicy wielu pokoleń uczestniczyli w ruchu białoruskim nie tylko w regionie bielskim, ale także w Grodnie, Moskwie, Petersburgu.

Książka jest bogato ilustrowana zdjęciami, pochodzącymi nawet z połowy XIX w., które zachowały się w rodzinnym archiwum Kostycewiczów.

Wątpliwości budzi jedynie język książki. Otóż jest to jedna z wersji białoruskiej gwary podlaskiej, którą już od wielu lat Doroteusz Fionik promuje w swoich publikacjach. A należy odnotować, iż Jarosław Kostycewicz — jako przedstawiciel pokolenia Białorusinów, którzy zdobywali edukację jeszcze w szkołach rosyjskich — na co dzień, także w pracy, posługiwał się językiem rosyjskim (nie gwarą podlaską). Osoba Jarosława Kostycewicza, mimo największych zasług dla regionu bielskiego, znana była szerszemu kręgu Białorusinów, o czym m.in. świadczy to, iż w 1956 r. wybrano go do władz naczelnych Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Język omawianej książki, niestety, ogranicza grono odbiorców. Miejmy więc nadzieję, iż w szybkim czasie publikacja o Jarosławie Kostycewiczu ukaże się w literackiej wersji języka białoruskiego.

Тое, што адбываецца побач нас, на нашых вуліцах, патрабуе рэакцыі нас, настаўнікаў. Трэба нам задумацца, што яшчэ можам зрабіць на нашых занятках дзеля адукацыі маладых людзей. Гэта сцэнарый, якім можа карыстацца кожны настаўнік на ўроках або пазаўрочных занятках. Настаўнікам беларускай мовы прапануем пакарыстацца вершам на беларускай мове.



Katarzyna Sawicka-Mierzyńska

# Temat: O SZTUCE EMPATII. INTERPRETACJA WIERSZA MICHAŁA KSIĄŻKA POD TYTUŁEM *PODPALANIE DRZWI*

**GŁÓWNY CEL LEKCJI:** Uwrażliwienie uczniów na problem przemocy rasowej, kształtowanie empatii wobec osób, które jej doznają oraz umiejętności reagowania na jej przejawy.

**CELE SZCZEGÓŁOWE:**

- uczeń rozumie, że każdy przejaw agresji na tle rasowym (także słownej) jest przestępstwem, rozpoznaje jej przejawy, ma świadomość konsekwencji takiego zachowania (społecznych i jednostkowych) oraz poczucie odpowiedzialności za postawę swoją i swego najbliższego otoczenia
- uczeń dokonuje analizy treści artykułu prasowego w kontekście współczesnych zjawisk społecznych (relacja swój-inny-obcy)
- uczeń interpretuje (samodzielnie oraz/lub ze wskazówkami nauczyciela) wiersz, zarówno jako całość, jak też poszczególne obrazy i metafory
- uczeń potrafi sporządzić (ustnie i pisemnie) opis emocji

**METODY PRACY:** praca z tekstem różnego typu (artykuł prasowy, wiersz), samodzielne i grupowe tworzenie krótkich wypowiedzi ustnych oraz pisemnych

**FORMY PRACY:** indywidualna, w grupach, zbiorowa

**PRZEBIEG LEKCJI**

**I. CZĘŚĆ WSTĘPNA:**

1. Nauczyciel wita się z uczniami i zapisuje na tablicy temat lekcji.
2. Nauczyciel zadaje pytanie o znaczenie słów „empatia" i „sympatia" (uczniowie mają możliwość skorzystania ze *Słownika języka polskiego*). Uczniowie zastanawiają się, czy sympatia jest warunkiem empatii.
3. Nauczyciel odczytuje uczniom artykuł z „Kuriera Porannego", opowiadający o podpaleniu drzwi mieszkania polsko-pakistańskiej rodziny, do jakiego doszło w Białymstoku w 2011 roku.
4. Nauczyciel dzieli uczniów na trzy grupy. Każda z nich otrzymuje zadanie opisania na wspólnej kartce przy pomocy krótkich haseł (nie muszą to być zdania) emocji, jakie towarzyszą:

**Grupa 1:** zaatakowanej rodzinie

Wyobraź sobie, że jesteś pięcioletnim dzieckiem, któremu ktoś próbuje podpalić mieszkanie. Co czujesz? Co myślisz?

**Grupa 2:** mieszkańcom osiedla, na którym od kilku lat żyje zaatakowana rodzina

Wyobraź sobie, że podpalono mieszkanie znajdujące się w bloku obok. Co czujesz? Co myślisz? Co zrobisz?

**Grupa 3:** członkom grupy, która dokonała podpalenia

Wyobraź sobie, że idziesz podpalić drzwi mieszkania obcokrajowców. Co czujesz? Jaka jest twoja motywacja?

5. Reprezentanci każdej z grup odczytują zapisane przez siebie hasła.

**II. CZĘŚĆ GŁÓWNA**

1. Nauczyciel rozdaje uczniom kartki z wierszem Michała Książka *Podpalanie drzwi*, jednocześnie przybliżając w kilku zdaniach sylwetkę pisarza.
2. Jeden z uczniów głośno odczytuje wiersz.
3. Wspólna interpretacja tekstu. Pytania i wskazówki nauczyciela:

**A.** Jak określilibyście podmiot utworu. Kto kryje się za zaimkiem „my"?

**B.** Zwróćcie uwagę na rzeczownik odczasownikowy, stanowiący tytuł wiersza. Dlaczego autor utworzył go od niedokonanej formy czasownika? Dlaczego „podpalanie", a nie „podpalenie"?

a) znaczenie dosłowne: sugestia, że drzwi nie spaliły się do końca

b) znaczenie głębsze, metaforyczne — pokazanie, że to nie jest jednorazowy

incydent, tylko długotrwały **proces** (właśnie tym różni się wiersz od notatki prasowej, że przydaje konkretnemu zdarzeniu głębszy, uniwersalny sens), zjawisko znane z przeszłości

- zdarzenie, które na zasadzie synekdochy nawiązuje do Holocaustu; obrazy palenia ludzi, określenie ich jako łatwopalnych, zasygnalizowanie obojętności świadków [„A miasto zachowuje spokój. / I wieś. / Pasterze, owce, nawet psy milczą" — analogia z *Campo di Fiori* Czesława Miłosza] jednoznacznie odsyłają do losu Żydów [przeszłość]
- zwrócenie uwagi na szerzącą się aktualnie agresję na tle rasowym: do takich podpaleń lub innych aktów przemocy dochodzi coraz częściej, nie możemy ich bagatelizować stwierdzeniem, że to rzadkie, pojedyncze przypadki [teraźniejszość]
- ostrzeżenie: jeśli nie zaczniemy działać, walczyć z takimi postawami, reagować, agresja i przemoc będą zataczać coraz szersze kręgi [przyszłość]

**C.** Dlaczego autor wyeksponował postaci dzieci?

- cierpienie i strach dzieci (oraz zwierząt — chomik) wywołuje ogromne emocje odbiorcy
- dzieci są symbolem niewinności, bezbronności (podobnie bezbronny jest śpiący dorosły człowiek), ich krzywda budzi jednoznaczny sprzeciw, bez względu na światopogląd czytelnika

**D.** Jak rozumiecie fragment:

*Ja nie umiem*
*jakoś wytłumaczyć tego córce.*
*Nie umiem nawet jej przekonać,*

*że jej oczy wąskie jak sztylecik*
*nikogo nie zranią.*
*Że świat przez takie oczy*
*wygląda jak przez te, których nigdy nie będziesz mieć.*
*Migdałowe.*

**E.** Wiersz kończy się pytaniem retorycznym: „Wytłumaczysz jakoś to dzieciom, kochanie?"

a) dlaczego najtrudniej wytłumaczyć takie zdarzenie właśnie dzieciom?

b) nauczyciel prosi trzech uczniów, żeby spróbowali wykonać polecenie autora, formułując krótką wypowiedź skierowaną do dzieci, którym podpalono mieszkanie

**Pytanie do klasy:** Jesteście takimi dziećmi. Zrozumieliście? Czy przemawiają do was te argumenty?

Nauczyciel wspólnie z uczniami formułuje wniosek, że autorowi, dzięki uruchomieniu perspektywy dziecięcej, udaje się obnażyć absurdalność i fałsz wszelkich argumentów, które tłumaczą i uzasadniają przemoc wobec ludzi różniących się od nas kolorem skóry, wyznaniem czy stylem życia.

**III. ZAKOŃCZENIE LEKCJI**

Nauczyciel prosi uczniów, żeby wyobrazili sobie, że są w szkole świadkami ataku na tle rasistowskim (agresja słowna). Co zrobią? Sugestia, żeby skupili się na ofierze: gest empatii, pociechy, wsparcia oraz zasygnalizowali zaistniałą sytuację nauczycielowi, wychowawcy, pedagogowi szkolnemu.

**Praca domowa:**

Napisz krótki esej na temat: Czy „mowa nienawiści" jest formą przemocy?

**MATERIAŁY:**

**1. Magdalena Kuźmiuk, *Rasistowski atak. Podpalili drzwi do mieszkania polsko-pakistańskiej rodziny*, „Kurier Poranny", 24.08.2011 r.**

Młoda białostoczanka i jej mąż — Pakistańczyk, żyją w strachu. — Odkąd mąż zamieszkał ze mną, na osiedlu od razu zaczęli go zaczepiać. Ale do tej pory to były tylko chuligańskie odzywki, teraz posunęli się dalej. Ktoś chciał nas spalić — kobieta jest przerażona. Najbardziej boi się o bezpieczeństwo ich dwuletniego synka.

W nocy z poniedziałku na wtorek ktoś oblał drzwi do mieszkania łatwopalną cieczą i podpalił. — Uratował nas wysoki próg. Gdyby nie to, ogień dostałby się do wnętrza — mówi zdenerwowana białostoczanka.

Od rana w mieszkaniu czuć było zapach rozpuszczalnika, benzyny. Gospodarze — polsko-pakistańskie małżeństwo — myśleli, że może jakiś sąsiad niechcący rozlał coś na klatce schodowej. Ale gdy Ewelina otworzyła drzwi wejściowe, zobaczyła je całe okopcone, wycieraczka była spalona.

— Bardzo się wystraszyliśmy — mówi. Podejrzewa, że to ma związek właśnie z tym, że stanowią z mężem mieszaną parę, a to nie wszystkim na osiedlu się podoba. Gdy tylko mąż wprowadził się do jej mieszkania przed paroma laty, od razu zaczęły się rasistowskie zaczepki. Czarny, white power — słyszeli niemal codziennie.

— Podejrzane osiedlowe typy zbierają się tuż przed naszymi oknami.

Najwięcej wyzwisk leci, gdy mąż wychodzi na balkon na papierosa. Podobnie jest, gdy odwiedzają nas znajomi, też mieszana para. Wtedy to działa na nich, jak podwójna płachta na byka — porównuje Ewelina.

Już wcześniej jej mąż spotkał się z agresją ze strony młodych, krótko ostrzyżonych białostoczan. To było w miejskim autobusie. Mężczyzna został uderzony w twarz. Innym razem opluty. Zdarzyło się, że okna ich mieszkania zostały obrzucone kamieniami.

— Na zakupy do pobliskiego sklepu jeździmy samochodem. Spacerujemy tylko w dzień. Wieczorem to byłoby jak samobójstwo — dodaje młoda kobieta. Po tym, co się stało, jej mąż, który na co dzień opiekuje się ich synkiem, boi się wyjść z nim w ciągu dnia do piaskownicy.

Do tej pory o rasistowskich atakach małżonkowie nie powiadomili policji. Podinsp. Andrzej Baranowski, rzecznik prasowy podlaskiej policji, uważa, że to błąd.

— Niezgłaszanie takich sytuacji powoduje, że sprawcy czują się bezkarni. Że jest przyzwolenie na takie zachowania — mówi.

(...)

— Tego nie zrobili chuligani, nie można też ich nazywać bandytami. To są obrzydliwi rasiści, którzy motywują swoje działanie chorą ideologią. Podpalenie drzwi to nie był akt chuligaństwa czy wandalizmu, to ta zbrodnicza ideologia w czystym wydaniu — uważa Jacek Purski ze Stowarzyszenia Nigdy Więcej. Podkreśla, że od języka nienawiści, który często jako społeczeństwo lekceważymy, do bardzo poważnych przestępstw, popełnianych na tle narodowościowym, jest bardzo krótka droga.

**2. Michał Książek, *Podpalanie drzwi*, w: tegoż, *Nauka o ptakach*, Białystok 2014, s. 33-34.**

*Takim jak my w Białymstoku podpalają drzwi.*
*Nie możemy o tym nie pamiętać,*
*zostawiając za drzwiami dzieci i chomika.*

*Dzieci i chomiki są takie łatwopalne.*
*Podpalacze wiedzą o tym.*
*I że mało z nich będzie popiołu na dowód.*

*Nie to, co rodzice, którzy mogą się bronić.*
*No, chyba że śpią.*
*Śpiący rodzice też są łatwopalni.*

*A miasto zachowuje spokój.*
*I wieś.*
*Pasterze, owce, nawet psy milczą.*

*Ja nie umiem*
*jakoś wytłumaczyć tego córce.*
*Nie umiem nawet jej przekonać,*

*że jej oczy wąskie jak sztylecik*
*nikogo nie zranią.*
*Że świat przez takie oczy*
*wygląda jak przez te, których nigdy nie będziesz mieć.*
*Migdałowe.*

*Nie bój się, nie bój –*
*mówię do niej.*

*Kiedy przyjdą ludzie z benzyną i nienawiścią w butelce,*
*wsiądziemy na ten Wielki Wóz, co w nocy stoi za domem.*

*I pojedziemy sobie stąd*
*do Centrum Nauki Kopernik,*
*do wesołego miasteczka albo do zoo.*

*Nie bój się, nie bój –*
*straży pożarnej na pewno nie przeszkadzają twoje oczy*
*ani kolor skóry,*
*przyjedzie do nas ich wspaniały czerwony samochód,*
*jakby co.*

*Poza tym wiesz przecież, że Astrid Lindgren i Jan Brzechwa*
*są po naszej stronie.*
*Także Julian Tuwim i Janusz Korczak,*
*i wielu, wielu innych.*
*Na pewno nie pozwolą cię skrzywdzić.*

*Takim jak my w Białymstoku podpalają drzwi.*
*Z miłości do bliźniego swego, tylko swego, takiego białego*
*jak śmierć to robią.*

*Wytłumaczysz jakoś to dzieciom, kochanie?*

**3. *Słownik języka polskiego* PWN**

**empatia**

1. «umiejętność wczuwania się w stan wewnętrzny drugiej osoby»
2. «przypisywanie komuś własnych odczuć w danej sytuacji»

**sympatia**

1. «życzliwy lub przyjazny stosunek wobec kogoś lub czegoś»
2. «osoba, którą się lubi lub w której jest się zakochanym»

**4. Sylwetka Michała Książka**

Poeta, reportażysta, ornitolog, leśnik, kulturoznawca, podróżnik, obrońca Puszczy Białowieskiej. Urodził się w 1978 roku w okolicach Sieradza. Autor znakomitych i nagradzanych reportaży: *Jakuck. Słownik miejsca; Droga 816*. Jego żona jest Jakutką, mieszkają w Polsce, mają dwoje dzieci.

## *Падпальванне дзвярэй*

*Такім як мы ў Беластоку падпальваюць дзверы.*
*Не можам пра гэта забыць,*
*Калі пакідаем за дзвярыма дзяцей і хамяка.*

*Дзеці і хамякі так лёгка гараць.*
*Падпальшчыкі гэта ведаюць.*
*Як і тое, што мала з іх попелу на доказ.*

*Не тое, што бацькі, якія могуць бараніцца.*
*Ну, хіба што спяць.*
*Бацькі ў сне таксама лёгка гараць.*

*А горад спакойны.*
*І вёска.*
*Пастухі, авечкі, цюцькі — усе маўчаць.*

*Я ніяк не змагу*
*растлумачыць гэта дачцэ.*
*Мне не хапае слоў, каб запэўніць,*

*што яе вузкія як штылецік вочы*
*нікога не парэжуць.*
*Што свет за гэтымі вачыма*
*Такі сам, як за тымі, якіх ніколі мець не будзеш.*
*Міндальнымі.*

*Не бойся, не бойся –*
*кажу ёй.*
*Калі прыйдуць людзі з бензінам і нянавісцю ў бутэльцы,*
*сядзем на Вялікую Мядзведзіцу, якая ноччу дзяжурыць за домам.*

*І паедзем адсюль*
*у Цэнтр навукі Капернік,*
*у луна- або ў заапарк.*

*Не бойся, не бойся –*
*пажарнікам — я ўпэўнены — не мяшаюць твае вочы,*
*ні колер скуры,*
*прыедзе да нас іх шыкоўная чырвоная машына,*
*калі што.*

*Ну і ведаеш жа, што Астрыд Ліндгрэн і Ян Бжэхва*
*на нашым баку.*
*І Юльян Тувім, і Януш Корчак,*
*і многа, многа іншых.*

*Такім як мы ў Беластоку падпальваюць дзверы.*
*З любоўю да бліжняга свайго, толькі свайго, такога белага*
*як смерць гэта робяць.*

*Растлумачыш гэта неяк дзецям, каханая?*

***Пераклад Аліны і Міколы Ваўранюкоў***

# Добрыя практыкі

## Урокі беларускай мовы гэта не толькі навука літар і чытання ў малодшых вучняў. Дзеці пашыраюць свой слоўнік дзякуючы гульням, навуцы вершаў, песень і ўсякім мастацкім заняткам.



Аліна ВАЎРАНЮК

У гэтым нумары нашага часопіса хачу прапанаваць сцэнарыі такіх урокаў.

Як вучыць дзяцей песні?

1. Прапануйце вучням паслухаць усю песню.
2. Прачытайце словы песні, растлумачце незразумелыя словы.
3. Рытмічна чытайце кожны радок песні (можна пры тым выбіваць рытм, пляскаючы ў далоні). Вучні паўтараюць паасобку кожны радок.
4. Зрабіце практыкаванні, каб вучні расспяваліся („разагрэлі" горла).
5. Праспявайце ўсю песню і прапануйце вучням ціха падпяваць мелодыю.
6. Спявайце радкі песні — вучні паўтараюць іх.
7. Спробы супольнага спеву.

На чарговых уроках паўтарайце песню, прапануючы:

- спяваць яе групам,
- спяваць вельмі ціха, ціха, голасна,
- спяваць высока або нізка,
- спяваць з выкарыстаннем ударных інструментаў,
- спяваць з рухам або жэстамі і г.д.

**Сцэнарыі ўрокаў** Урок беларускай мовы — I, II або III клас (2 гадзіны)

# Тэма: НАВУКА ПЕСНІ НА СЛОВЫ АНДРЭЯ ХАДАНОВІЧА З МУЗЫКАЙ АННЫ БАБІК „КАШТАНЫ".

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- разумеюць тэкст песні „Каштаны",
- ведаюць мелодыю песні „Каштаны",
- умеюць паўтарыць рытм песні „Каштаны",
- умеюць праспяваць большую частку песні „Каштаны",
- умеюць слухаць музычны твор „Восень" Антоніа Вівальдзі,
- умеюць сказаць, чым займаецца кампазітар,
- умеюць назваць настрой музыкі і колеры,
- умеюць супрацоўнічаць у групе пры стварэнні прац з каштанаў і жалудоў.

**Формы працы:** індывідуальная, супольная, групавая.

**Метады працы:** размова, практыкаванні, праблема, гульня.

**Навучальныя дапаможнікі:** дыск „Нататкі таткі", „Восень" Антоніа Вівальдзі, тэкст скорагаворкі, каштаны, жалуды, зубачысткі, пластылін, каляровая папера, каляровыя алоўкі, вялікія карткі белай паперы.

1. Песня-прывітанка.
2. Азнаямленне вучняў з тэмай урокаў.
3. Размова з вучнямі пра тое, ці любяць яны восень, ці не і чаму.
4. Прапануйце вучням паслухаць „Восень" Антоніа Вівальдзі. Растлумачце слова „кампазітар".
5. Размова пра настрой музыкі. Прапануйце вучням выбраць каляровую паперу адпаведную да настрою пачутай кампазіцыі.
6. Навука песні „Каштаны" :
    - вучні слухаюць песню „Каштаны",
    - вучні слухаюць словы песні, тлумачэнне незразумелых слоў,

- рытмічнае чытанне чарговых радкоў песні.

*З вышыні на лісцяў кучы*
*Падаюць каштаны.*
*Кожны круглы і бліскучы –*
*Абмінуць складана!*
*Прыпеў: Хто не ўлез, у жменьку возьмем –*
*І сабрана рэшта:*
*Два ў зубах, у ручках восем,*
*І ў вазочку нешта.*
*Кожны разаб'е аб сцежку*
*Летні свой каптанік.*
*Скінь калючую адзежку,*
*Вылязай, каштанік!*
*Прыпеў: Хто не ўлез, у жменьку возьмем...*
*У мяне іх многа-многа,*
*Болей, чым у таты.*
*Набяру — і з перамогай*
*Вернемся дахаты.*
*Прыпеў: Хто не ўлез, у жменьку возьмем...*
*Дома сумаваць не стану,*
*Будзе суцяшэнне:*
*У мяне цяпер каштанаў*
*Поўныя кішэні.*
*Прыпеў: Хто не ўлез, у жменьку возьмем...*

- Практыкаванні з голасам.

Вучні стаяць у крузе.
Кожны з іх набірае паветра носам і памалу выпускае яго ротам.
Паўторы (голасна, ціха, хутка, павольна) скорагаворкі:
Раз — каштан,
Два — каштан,
Тры, чатыры, пяць...
Не злічыць усіх наўкола,
Трэба іх збіраць.

- вучні ціха падпяваюць мелодыю песні,

- навука чарговых радкоў песні — вучні паўтараюць іх,
- спробы супольнага спеву.

7. Выкананне ў групах прац з каштанаў і жалудоў.

   Падзяліце вучняў на некалькі груп (па 4 асобы), раздайце жалуды, каштаны, зубачысткі і пластылін. Прапануйце ім стварыць свае кампазіцыі.

   Калі гэта I клас, пакажыце як і што яны могуць зрабіць.

   У той час, калі дзеці працуюць, чуваць песню „Каштаны", якую дзеці могуць падпяваць.
8. Паказ прац і выкананне выставы.
9. Падвядзенне ўрока. Размова пра настрой у песні „Каштаны".

   Прапануйце дзецям выбраць два колеры каляровых алоўкаў, якія асацыююцца ім з песняй. Вучні трымаюць іх у руках і пад песню „Каштаны" малююць наперамéнку раз правай, раз левай рукой на белай паперы, прыклеенай да парты.
10. Развітанне.

На чарговым уроку можаце прапанаваць вучням на размаляваных картках абрысаваць свае рукі (можна ўвесці назвы пальцаў). Дзеці выцінаюць іх.

Пасля гэтага можаце пагуляць, даючы загады вучням:

- пакладзіце руку з левага або з правага боку парты,
- пакладзіце рукі зверху парты, знізу,
- трымайце рукі пад партай або над партай і г.д.

Можаце пагуляць з вучнямі з песняй „Кропіць дожджык" з дыска для I класа. „Выцятыя рукі" будуць вашымі лісткамі.

Калі гэта III клас, пагаварыце пра ліставыя і хваёвыя дрэвы (падручнік „Кругагод", с. 16). Прапануйце вучням у групах скласці з гэтых рук восеньскія дрэвы і наклеіць іх на вялікія карткі паперы.

Можаце таксама пагуляць „выцятымі рукамі" як лісточкамі пад тэкст Зоські Верас „Думкі" („Кругагод", с. 17). Дарэчы, гэты тэкст добра чытаецца пад музыку „Восень" Антоніа Вівальдзі.

Урок беларускай мовы — IV клас

Сцэнарыі ўрокаў

# Тэма: НАВУКА ПЕСНІ НА СЛОВЫ АНДРЭЯ ХАДАНОВІЧА З МУЗЫКАЙ АННЫ БАБІК „МАМА ХВАЛЮЕЦЦА".

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- разумеюць тэкст песні „Мама хвалюецца",
- ведаюць мелодыю песні „Мама хвалюецца",
- умеюць праспяваць песню „Мама хвалюецца",
- умеюць назваць некаторыя эмоцыі,
- умеюць паказаць мімікай твару і рухам розныя эмоцыі.

**Формы працы:** індывідуальная, супольная, групавая.

**Метады працы:** размова, практыкаванні, мазгавы штурм, гульня.

**Навучальныя дапаможнікі:** дыск „Нататкі таткі", песні „Мама хвалюецца", карткі паперы, розныя тварыкі (эмаціконы), фламастары, слоўнікі.

1. Прывітанне.
2. Размова з вучнямі пра іх настрой і эмоцыі, з якімі прыйшлі на заняткі. Вучні выбіраюць сабе твары, якія ім адпавядаюць на той час. Азнаямленне вучняў з тэмай урока.
3. Размова пра эмоцыі. Запіс назваў на дошцы (радасць, злосць, страх, каханне, зайздрасць, сум, удзячнасць, хваляванне...). Калі вучні патрабуюць, карыстаюцца слоўнікамі.
4. Вучні слухаюць песню „Мама хвалюецца". Размова пра настрой песні.
5. Размова пра змест песні. Тлумачэнне незразумелых слоў. Кожны вучань мае тэкст на картцы.

*Мама хвалюецца — раз:*

*Нехта залез пад матрац.*

*Мама хвалюецца — два:*

*Выцягні бот з рукава!*

*Мама хвалюецца — тры:*

*Цацкі ў пакоі збяры!*
*І не раскідвай гарох!*
*Мама ўжо лічыць да трох.*
*Гэтыя чорныя дзіры*
*Зноў на каленках... Чатыры!*
*Мама хвалюецца — пяць:*
*Спі! Нават бэйбусы спяць!*
*Зранку — хто кашы не есць?!*
*Зранку — хто кашы не есць?!*
*Зранку — хто кашы не есць?!*
*Мама хвалюецца — жэсць!*

6. Навука тэксту і мелодыі песні згодна з методыкай.
7. Гульня ў загадкі-адгадкі. Ахвотныя вучні паказваюць тварам або рухамі цела розныя эмоцыі, а астатнія называюць іх.
8. Праца ў групах. Вучні пішуць, што могуць зрабіць, каб іхнія бацькі менш хваляваліся. Пасля сканчэння працы кожная група чытае свае прапановы.
9. Запіс у сшытках выбраных прапаноў.
10. Падвядзенне ўрока. Вучні рысуюць твары, з якімі выходзяць пасля заканчэння ўрока.
11. Развітанне.

Урок беларускай мовы — III клас

**Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: НАВУКА ПЕСНІ НА СЛОВЫ АНДРЭЯ ХАДАНОВІЧА З МУЗЫКАЙ АННЫ БАБІК „ГРЫБЫ”.

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- разумеюць тэкст песні „Грыбы”,
- ведаюць мелодыю песні „Грыбы”,
- умеюць назваць некаторыя ядомыя грыбы, якія растуць у нашых лясах,
- ведаюць будову грыбоў (ножка, капялюш),
- умеюць праспяваць песню „Грыбы”,
- умеюць назваць настрой музыкі.

**Формы працы:** індывідуальная, супольная.

**Метады працы:** размова, практыкаванні, праблема, гульня.

**Навучальныя дапаможнікі:** дыск „Нататкі таткі”, тэкст скорагаворкі, карткі з тэкстам песні „Грыбы”, падручнік „Кругагод” — с. 18, 19, пластылін.

1. Песня-прывітанка.
2. Размова з вучнямі на тэму: Што прыносіць восень? Азнаямленне вучняў з тэмай урока.
3. Практыкаванні голасу са скорагаворкай:

*Дожджык, дожджык — грыбасей,*

*Ты для нас грыбы пасей.*

*Дожджык, дожджык — рыбачок,*

*Злаві рыбку на кручок.*

4. Вучні слухаюць песню „Грыбы”. Размова пра настрой песні.
5. Размова пра змест песні. Тлумачэнне незразумелых слоў. Кожны вучань мае тэкст на картцы.

*Мчыць машына, дым з трубы -*
*З дзедам едзем у грыбы.*
*Шмат грыбоў, што ёсць у лесе,*
*У маё вядзерца ўлезе.*

*Прыпеў: Назбіраю шмат грыбоў,*
*У мяне да іх любоў.*
*Можа — сто, а можа — дзвесце,*
*Каб і татка мог пад'есці.*

*Адыходжу крок ад сцежкі,*
*Мне насустрач — сыраежкі.*
*Я бяру адну і дзве,*
*І яшчэ адна ў траве.*

*Прыпеў: Назбіраю шмат грыбоў...*

*А яшчэ грыбоў на ўзгорак*
*Пакладу я — для вавёрак,*
*Каб і тут было каму*
*Харчавацца ўсю зіму.*

*Прыпеў: Назбіраю шмат грыбоў...*

6. Навука тэксту і мелодыі песні згодна з методыкай.
7. Выказванні вучняў на тэму ядомых грыбоў, якія растуць у нашых лясах на аснове ведаў дзяцей і рысункаў з падручніка „Кругагод", с. 19.
8. Выкананне вучнямі грыбоў з пластыліну. У час працы дзеці чуюць запіс песні „Грыбы".
9. Паказ і выстава выкананых грыбоў.
10. Выказванні вучняў на тэму верша „У грыбох" („Кругагод", с. 18).
11. Спробы чытання верша вучнямі. Прапанова прыдумаць музыку да верша.
12. Падвядзенне заняткаў.
13. Праца ў хаце для ахвотных: Прынясу рэцэпт стравы з грыбамі.
14. Развітанне.

# Тэма: НАВУКА ПЕСНІ ВІКТАРА ШАЛКЕВІЧА „ВЕРАСЕНЬ”.

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- ведаюць і разумеюць тэкст песні „Верасень”,
- разумеюць значэнне слоў і словазлучэнняў з песні (слотная пара, паўвярсты і іншыя)
- ведаюць мелодыю песні „Верасень”,
- умеюць назваць прыкметы восеньскага надвор’я,
- умеюць праспяваць песню „Верасень”,
- умеюць назваць настрой песні.

**Формы працы:** індывідуальная, супольная, групавая.

**Метады працы:** размова, практыкаванні, праблема, гульня.

**Навучальныя дапаможнікі:** песня Віктара Шалкевіча „Верасень”: www.youtube.com/watch?v=Y1KrLbNuihk, слоўнікі, вікіпедыя, карткі, пустыя банкі, накрыўкі (kapsle), дрот, крупы, гарох, клей.

1. Прывітанне. Арганізацыйная частка ўрока.
2. Размова з вучнямі на тэму прыкмет восеньскага надвор’я.
3. Азнаямленне вучняў з тэмай урока.
4. Вучні слухаюць песню „Верасень”. Размова пра настрой песні.
5. Інфармацыя настаўніка пра аўтара песні беларускага гродзенскага акцёра Віктара Шалкевіча.

**Віктар Шалкевіч** нарадзіўся ў 1959 годзе ў Поразаве на Гродзеншчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у гродзенскіх тэатрах (драматычным і лялечным). Бард, акцёр, пісьменнік. Узнагароджаны міжнародным Ордэнам усмешкі. З канцэртамі выступае амаль па ўсёй Еўропе. Аўтар шэрагу дыскаў, кніг паэзіі і прозы.

6. Настаўнік уключае вучням фрагменты песні і просіць іх самастойна запісаць пачутыя словы. Вучні пішуць іх на картках або на дошцы. Тлумачэнне незразумелых слоў.

*Верасень, слотная пара,*
*Дождж ідзе без перастанку.*
*Эх, прыбіцца б нанач да двара,*
*Дзвярэй не адчыняць, не бяда,*
*Пераспім на ганку.*

*Не касі вухам коню шэры,*
*Пачакай, праз паўвярсты*
*Будзе вёска, а ў вёсцы вячэра.*
*Адпачнеш нарэшце ты.*

*Можа ў вашай хаце, гаспадар,*
*Вольны знойдзецца куточак.*
*Хіба нас, пане гаспадар,*
*Хіба нас, добры гаспадар,*
*Нанач з хаты гнаць не схочаш.*

7. Размова пра змест песні.
8. Навука тэксту і мелодыі песні згодна з методыкай.
9. Настаўнік прапануе вучням выканаць у групах (3-4 асобы) бразготкі з падрыхтаваных матэрыялаў.
10. Падвядзенне заняткаў. Выкананне песні „Верасень” з выкарыстаннем выканаых бразготак.
11. Развітанне.

**Заўвага:** Маім вучням са старэйшых класаў падабаецца слухаць і самім запісваць словы песні. У такі спосаб яны вывучылі, між іншым, песні Лявона Вольскага „Пахне чабор” і „Белая яблыня грому” з дыска „Белая яблыня грому”, „Чужы” (дыск „Грамадазнаўства”), „Героі не паміраюць”, песні „Не быць скотам” і „Месяц” гурта „Ляпіс Трубецкі” (дыск „Грай”).

## Урок беларускай мовы — II клас

**Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: НАВУКА ВЕРША „ШАРЫК" АНДРЭЯ ХАДАНОВІЧА.

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- разумеюць і ведаюць тэкст верша „Шарык",
- ведаюць пісаныя і друкаваныя літары „Ш, ш",
- умеюць прадэкламаваць верш з адпаведнай інтанацыяй,
- умеюць сказаць чым займаецца мастак,
- умеюць вызначыць тэму і настрой верша,
- умеюць назваць колеры, якімі выконваюць працы.

**Формы працы:** індывідуальная, супольная, групавая.

**Метады працы:** размова, практыкаванні, гульня.

**Навучальныя дапаможнікі:** карткі са словамі з літарамі „Ш, ш" пісанымі і друкаванымі, тэкст верша „Шарык", фарбы (3-4 колеры), посуд для фарбаў, шары, карткі белай паперы, каляровыя алоўкі.

1. Песня-прывітанка.
2. Азнаямленне вучняў з тэмай урока.
3. Настаўнік дае вучням карткі з запісанымі і надрукаванымі словамі і просіць знайсці і пазначыць усе літары „Ш, ш".
4. Чытанне ўголас слоў з картак (мох, шум, шахматы, Маша, што, Наташа, мушу, хто, Шыман, ноты, мышы, шмат, хата, шашкі, шахты, нашы, шына, машыны).
5. Настаўнік чытае вучням верш „Шарык".

*У мяне ёсць шарык —*
*Жоўты, як ліхтарык.*

*На яго з усіх бакоў*
*Шмат сядае матылькоў.*

*Хочуць сесці на мой шарык*
*Цёця муха і камарык.*

*Сяду на яго сама...*
*Бах! — і шарыка няма.*

6. Размова пра змест і настрой верша.
7. Навука верша на памяць. Вучні паўтараюць за настаўнікам чарговыя радкі верша. Потым па два радкі, затым цэлыя строфы і г.д.
8. Дэкламацыя верша ахвотнымі вучнямі.
9. Настаўнік прапануе вучням пагуляць у мастакоў. Дзеліць дзяцей на групы па 4 асобы. Затым распавядае, што трэба будзе ім зрабіць.

**Кожны вучаць павінен:**

- надзьмуць крыху свой шарык (дыяметрам да 15 см) і завязаць,
- выбраць адзін колер фарбы і выціснуць невялікую яе колькасць у посуд (адзін на чатыры асобы),
- намачыць свой шарык у фарбу і на сваёй белай паперы парабіць шарыкам каляровыя кляксы, прыціскаючы намочаны ў фарбах шарык да паперы,
- дамаляваць, калі трэба, каляровымі алоўкамі нейкія элементы.

10. Паказ і выстава выкананых прац.
11. Завяршэнне ўрока — супольная дэкламацыя верша.
12. Развітанне.

# Тэма: РЫСЫ ХАРАКТАРУ ДОБРАГА ВУЧНЯ.

**Гэты ўрок прапаную правесці з вучнямі старэйных класаў пачатковай школы. Тэкст *Цяжкі выбар* Міколы Сянкевіча з падручніка беларускай мовы для пяцікласнікаў. Я працавала з ім і з чацвёртым класам.**

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- умеюць назваць рысы характару, прыкметы добрага вучня,
- ведаюць словы і словазлучэнні з тэксту *Цяжкі выбар*,
- разумеюць словы і словазлучэнні з урока,
- умеюць даказаць сваё меркаванне.

**Формы працы:** індывідуальная, супольная, групавая.

**Метады працы:** размова, практыкаванні, мазгавы штурм, гульня.

**Навучальныя дапаможнікі:** тэкст *Цяжкі выбар*, карткі паперы, малюнак з вучням, магніты, фламастары, слоўнікі.

1. Прывітанне.
2. Азнаямленне вучняў з тэмай урокаў.
3. Вучні ў парах вызначаюць і запісваюць рысы характару і прыкметы добрага вучня. Карыстаюцца слоўнікамі.
4. Вучні чытаюць свае прапановы.
5. Размова з вучнямі на тэму вынікаў працы ў групах. Якія рысы, прыкметы паўтараюцца? Чаму такія, а не іншыя?
6. Прэзентацыя тэксту *Цяжкі выбар*. Чытае настаўнік.

*Кантрольная па матэматыцы на парадавала Рыгорку. Ён рашыў задачу. Засталіся прыклады. І сярод іх той, што прынёс столькі клопату. Рыгорка аж узмакрэў, расхваляваўся. Перад кантрольнаю , здавалася, усё было зразумелым. А тут зноў заблытаўся. Лічыць так — выходзіць*

*дзевятнаццаць, па другому палічыць — дваццаць дзевяць. Марына Пятроўна тым часам на гадзіннік зірнула, папярэдзіла:*

*— Праз пяць хвілін будзем здаваць сшыткі.*

*З апошняй надзеяй Рыгорка зазірнуў у Санькаў сшытак. У сябра — дзевятнаццаць. Рыгорка хуценька дапісаў у прыкладзе „дзевятнаццаць". І ў гэты час ззаду шапнуў Толя:*

*— Папраў на дваццаць дзевяць. Я дакладна палічыў!..*

*— Рыгорка зноў засумняваўся. І неяк само сабою выйшла, што побач з лічбаю дзевятнаццаць ён дапісаў „або дваццаць дзевяць".*

*— Дзевятнаццаць! Вядома, дзевятнаццаць! — упэўнена даказваў на перапынку выдатнік Юрка Мудроў.*

*— На другі дзень настаўніца раздала сшыткі. У Рыгоркі не паправіла ніводнай лічбы. Толькі ўнізе, на тым самым месцы, дзе павінна стаяць адзнака напісана: „5" альбо „4".*

*— Дзеці, я вам веру. Пастаўце, калі ласка, самі адзнакі ў дзённік, — папрасіла Марына Пятроўна. — Я распішуся на перапынку.*

*— А што мне паставіць? — пачырванеў Рыгорка.*

*— А ў цябе хіба няма адзнакі? — Марына Пятроўна з усмешкай паглядзела на Ругорку.*

*— Выбірай!*

*„Што ж паставіць? — гадаў Рыгорка. — Без памылак рашыў задачу, тры слупкі прыкладаў. Праўда, у канцы апошняга прыкладу не даў пэўнага адказу, як Юрка Мудроў..."*

*Падумаўшы яшчэ з хвіліну, Рыгорка акуратна вывеў у дзённіку чацвёрку.*

*Марына Пятроўна ўзяла дзённік, распісалася і ціха сказала:*

*— Малайчына! Зрабіў правільны выбар. А сваю пяцёрку ты яшчэ атрымаеш.*

7. Размова пра змест тэксту. Тлумачэнне незразумелых слоў. Настаўнік павінен растлумачыць вучням, калі гэтага не ведаюць, што вучні ў Беларусі карыстаюцца дзённікамі. Трэба таксама засяродзіць увагу вучняў на словазлучэннях: кантрольная па матэматыцы, праз пяць хвілін, здаваць сшыткі, я распішуся, ззаду, унізе.
8. Адказ на пытанне пра рысу характару героя тэксту (сумленнасць). Што значыць: кіравацца сумленнем, сумленнасць у паводзінах, сумленны перад сабой.
9. Падвядзенне ўрока — іерархія прыкмет добрага вучня. Запіс у сшытках выбраных прапаноў.
10. Разважанне: А якім вучнем буду я?
11. Развітанне.

**Konkurs objęty patronatem**
**Podlaskiego Kuratora Oświaty i Marszałka Województwa Podlaskiego**

Podlaski Kurator Oświaty Podlaskie

KONKURS PLASTYCZNY

# МАЯ МАЛЕНЬКАЯ АЙЧЫНА (MOJA MAŁA OJCZYZNA)

Szanowni Państwo Dyrektorzy szkół podstawowych, szkół ponadpodstawowych oraz przedszkoli.

Serdecznie zapraszamy do udziału w wojewódzkim konkursie plastycznym **Мая маленькая айчына (Moja Mała Ojczyzna)** organizowanym przez Stowarzyszenie na Rzecz Dzieci i Młodzieży Uczących się Języka Białoruskiego AB-BA w związku ze 100-leciem proklamowania Białoruskiej Republiki Ludowej oraz 100 rocznicą odzyskania niepodległości przez Polskę. Konkurs jest skierowany do dzieci w wieku przedszkolnym oraz do uczniów szkół podstawowych i ponadpodstawowych. Celem konkursu jest zainteresowanie dzieci i młodzieży dziejami narodów białoruskiego i polskiego od wieków wspólnie zamieszkujących tereny obecnego województwa podlaskiego oraz popularyzacja wydarzeń sprzed 100 lat i ich wpływu na kształtowanie się świadomości narodowej. Zadaniem uczestników jest przedstawienie własnego rozumienia pojęcia Małej Ojczyzny w dowolnej technice plastycznej.

Termin dostarczenia prac — do **19 maja 2018 r.** Każdy uczestnik może zgłosić do konkursu tylko jedną samodzielnie wykonaną pracę. Miejscem dostarczenia prac jest siedziba Stowarzyszenie na Rzecz Dzieci i Młodzieży Uczących się Języka Białoruskiego AB-BA, 15-459 Białystok, ul. Częstochowska 6a/lokal 8 (Szkoła Podstawowa nr 4 im. Sybiraków w Białymstoku).

## CELE KONKURSU:

- popularyzacja wydarzeń historycznych:100-lecia proklamowania Białoruskiej Republiki Ludowej oraz 100 rocznicy odzyskania niepodległości przez Polskę,
- motywowanie uczniów do rozwijania pasji historycznych i artystycznych,
- rozwijanie kreatywności dzieci i młodzieży w zakresie technik sztuki plastycznej.

## REGULAMIN KONKURSU:

### I. Organizator konkursu

Organizatorem konkursu jest Stowarzyszenie na Rzecz Dzieci i Młodzieży Uczących się Języka Białoruskiego AB-BA, 15-459 Białystok, ul. Częstochowska 6a/lokal 8
Informacje szczegółowe można uzyskać, kierując zapytania na adres ab_ba@poczta.onet.eu

II. **Adresaci**

1. Konkurs jest przeznaczony dla dzieci w wieku przedszkolnym oraz dla uczniów szkół podstawowych i ponadpodstawowych.

   Kategorie wiekowe:

   - dzieci w wieku przedszkolnym,
   - uczniowie klas I-III,
   - uczniowie klas IV-VII,
   - uczniowie szkół ponadpodstawowych (gimnazjum i szkoły średnie).

2. Prace konkursowe wraz z metryczką (załącznik nr 1) oraz oświadczeniem rodziców (załącznik nr 2) należy nadesłać (lub doręczyć osobiście) do 19 maja 2018 r. z dopiskiem: Konkurs plastyczny „Мая маленькая айчына" (Moja Mała Ojczyzna) na adres: **Stowarzyszenie na Rzecz Dzieci i Młodzieży Uczących się Języka Białoruskiego AB-BA, 15-459 Białystok, ul. Częstochowska 6a/lokal 8.**
3. Każdy uczestnik może zgłosić do konkursu tylko jedną samodzielnie wykonaną pracę.
4. Format prac: od A4 do A3 (lub w wymiarach pośrednich); technika dowolna: ołówek, kredki, farby, pastele, grafika, wyklejanie, wydzieranie, collage, itp. Do udziału w konkursie przyjmujemy również prace przestrzenne. Na odwrocie każdej pracy należy umieścić metryczkę (wzór w załączeniu).
5. Zgłoszenie prac do konkursu jest równoznaczne z przekazaniem praw autorskich do nich na rzecz Organizatorów. Organizatorzy zastrzegają sobie prawo nieodpłatnego wykorzystania prac konkursowych, w tym prac nagrodzonych i wyróżnionych, do promocji idei konkursu.
6. Dane osobowe uczestników będą wykorzystane wyłącznie w celu wyłonienia zwycięzców i przyznania nagród oraz publikowane w materiałach dotyczących konkursu.
7. Kryteria oceny prac:
   - zgodność pracy z tematem konkursu,
   - oryginalność pracy,
   - wartość plastyczna,
   - ogólny wyraz artystyczny.
8. Autorzy najlepszych prac (w poszczególnych kategoriach) zostaną nagrodzeni dyplomami i nagrodami przygotowanymi przez organizatora.
9. Ogłoszenie wyników konkursu, wystawa nagrodzonych prac i wręczenie nagród nastąpi podczas podsumowania osiągnięć artystycznych dzieci i młodzieży uczących się języka białoruskiego 4 czerwca 2018 r. w Białostockim Teatrze Lalek.
10. Wyróżnione prace zostaną dodatkowo zamieszczone w postaci elektronicznej na stronie Stowarzyszenia AB-BA.
11. Prace nagrodzone i wyróżnione przechodzą na własność Organizatorów. Pozostałe prace nie będą odsyłane. Można będzie odebrać je wyłącznie osobiście w siedzibie Stowarzyszenia AB-BA do 15 września 2018 roku.

12. Nagrody i wyróżnienia nieodebrane w ciągu 30 dni od posumowania konkursu przechodzą na własność Organizatorów (istnieje możliwość przesłania nagród na prośbę i koszt odbiorcy).
13. Sytuacje nieobjęte niniejszym regulaminem rozstrzygają Organizatorzy konkursu.

**UWAGI KOŃCOWE:**

1. O wyłonieniu zwycięzców konkursu decyduje powołane przez Organizatorów Jury.
2. Decyzja Jury jest ostateczna.
3. Wyniki konkursu zostaną zamieszczone na stronach internetowych: www.ab-ba.com.pl
4. Wystawa prac, połączona z ogłoszeniem wyników oraz wręczeniem nagród i wyróżnień laureatom konkursu, odbędzie się 4 czerwca 2018 r. w Białostockim Teatrze Lalek.
5. Nadesłanie prac jest równoważne z akceptacją powyższego regulaminu.

**Białystok, 22.05.2018 r.**

# Protokół obrad jury Konkursu Plastycznego MOJA MAŁA OJCZYZNA (MOJA MAŁA OJCZYZNA)

Jury w składzie:

**LILA WYSZKOWSKA, JERZY OSIENNIK, MIROSŁAW ZDRAJKOWSKI**

nagrodziło następujące prace:

## I. Kategoria dzieci w wieku przedszkolnym

1. **Oksana Kulik** – SP nr 14 w Białymstoku (*opiekunki Elżbieta Borowik, Ewa Gniazdowska*)
2. **Julia Sadowska** – Zespół Szkolno-Przedszkolny w Ogrodniczkach (*opiekunka Katarzyna Lisowska*)
3. **Gabriela Sienkiewicz** – Zespół Szkolno-Przedszkolny w Ogrodniczkach (*opiekunka Katarzyna Lisowska*)
4. **Alicja Młodawska** – Zespół Szkolno-Przedszkolny w Ogrodniczkach (*opiekunka Katarzyna Lisowska*)
5. **Szymon Stepaniuk** – Przedszkole nr 1 w Hajnówce (*opiekunki Ala Suprun, Mirosława Nikończuk*)
6. **Dominika Stepaniuk** – Przedszkole nr 1 w Hajnówce (*opiekunki Ala Suprun, Mirosława Nikończuk*)

## II. Kategoria klas I-III

1. **Hanna Muśko** – SP nr 3 w Bielsku Podlaskim (*opiekunki Alina Sacharewicz, Maria Falkowska*)
2. **Mikołaj Muśko** – SP nr 3 w Bielsku Podlaskim (*opiekunki Alina Sacharewicz, Maria Falkowska*)
3. **Alicja Siemion** – Zespół Szkolno-Przedszkolny w Ogrodniczkach (*opiekunka Katarzyna Lisowska*)
4. **Klaudia Sieklucka** – Zespół Szkolno-Przedszkolny w Ogrodniczkach (*opiekunka Katarzyna Lisowska*)
5. **Maja Czołpińska** – Zespół Szkolno-Przedszkolny w Ogrodniczkach (*opiekunka Katarzyna Lisowska*)
6. **Julia Fiedoruk** – SP nr 3 w Bielsku Podlaskim (*opiekunka Barbara Kuczyńska*)
7. **Wiktor Pawłowski** – SP nr 4 im. Sybiraków w Białymstoku (*opiekun Adam Pawłowski*)

## III. Kategoria klas IV-VII

1. **Marcin Kuźma** – SP Narewka (*opiekunka Anna Kondraciuk*)
2. **Julia Kolenda** – SP nr 3 w Bielsku Podlaskim (*opiekunka Irena Jabłuszewska*)
3. **Maria Piekarska** – SP nr 4 im. Sybiraków w Białymstoku (*opiekunka Ewa Piekarska*)
4. **Katarzyna Iwaniuk** – SP nr 4 im. Sybiraków w Białymstoku (*opiekunka Urszula Iwaniuk*)
5. **Kacper Ruczaj** – SP nr 3 w Bielsku Podlaskim (*opiekunka Irena Jabłuszewska*)

## IV. Kategoria szkół ponadpodstawowych

1. **Patryk Janczuk** – Zespół Szkół z DNJB (*opiekun Jan Karczewski*)
2. **Anna Korniluk** – PG nr 7 (*opiekunka Tamara Korniluk*)
3. **Natalia Sawicka** – PG nr 7 (*opiekun Piotr Sawicki*)













Фота Аляксандра ВАСЫЛЮКА

# Падвядзенне вынікаў артыстычнай працы дзяцей і моладзі ў навучальным годзе 2017/2018

Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі,
якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА
мае новыя ўлады.

ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА НА ГАДЫ 2018-2022:

Уршуля ІВАНЮК – старшыня

Кацярына ПАЎЛОЎСКАЯ – намесніца старшыні

Маніка ФЕДАРЧУК – скарбнік

Юлія КОСЬЦІНА – сакратар

Марыя ЗДРАЙКОЎСКАЯ – член

Жадаем Вам плённай працы!



Фота Юркі АСЕННІКА

# Змест




**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк, Яланта Грыгарук, Ян Карчэўскі, Яўгенія Таранта

**Карэктура:** Віталь Луба
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі
**Рэдактар:** Мікола Ваўранюк

**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Koncept Białystok

Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji